ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года | №104 (4461) СУБОТА, 31 снежня 1994 года | Кошт па падпісцы — 16 руб., у розніцу — 60 руб.

## ГЭТА БЫЛО Ў 1994-м












## НА ФІНІШЫ ГОДА

### ПАДАРУНКІ СІРОТАМ

У переднавагоднія дні ў сувязі з правядзеннем дабрачыннай акцыі "Нашы дзеці" для дзяцей-сірот і дзяцей, пазбаўленых сямейнага акружэння, што выхоўваюцца ў дзяржаўных інтэрнатных установах, намеснік прэм'ер-міністра Уладзімір Русакевіч, міністр адукацыі і навукі Васіль Стражаў, начальнік упраўлення адукацыі Мінскага аблвыканкама Аляксандр Новік наведалі Ратамскую школу-інтэрнат. Яны шчыра павіншавалі дзяцей і настаўнікаў, уручылі каштоўныя падарункі.

У гэты час школу-інтэрнат наведалі прадстаўнікі малога навукова-вытворчага прадпрыемства "АДЛ" (кіраўнік У.Якушка), амерыканскага дабрачыннага таварыства "Сафія", прадстаўніцтва з абмежаванай адказнасцю "Стылвей" (дырэктар В.Слуцкі), якія прывезлі дзецям прыгожую вопратку, абутак і ласункі.

Прэс-цэнтр Міністэрства адукацыі і навукі.

### МАСТАЦКІ "МАЛАДЗІК"

Адначасова з выставай работ настаўнікаў і вучняў сярэдняй школы №25 Віцебска адбылася прэзентацыя дзіцяча-юнацкага мастацкага цэнтра "Маладзік".

### КОМПЛЕКС ДЛЯ ЎСІХ

Цэнтрам здароўя ў саўгасе-камбінаце "Усход" Магілёўскага раёна стаў нядаўна пабудаваны на сродкі гаспадаркі спартыўны комплекс.

### ПАМЯЦІ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

Трэці міжнародны конкурс юных кампазітараў, прысвечаны памяці Максіма Багдановіча, адбыўся ў Гродна. Сярод лаўрэатаў дзве прадстаўніцы Гродзеншчыны — вучаніца Лідскай музычнай школы Дзінара Мазітава і Валерыя Яскоўская з Ваўкавыскай музычнай школы.

### НА КАЛЯДЫ — У ІТАЛІЮ

Калядныя і навагоднія святы юныя артысты хору сярэдняй школы №1 Мінска праводзяць у Італіі.

Міхась АНІСЕНКА.

### РАСКЛАД КАНІКУЛАЎ

* Тэатр музычнай камедыі з Санкт-Пецярбурга прывёз маленькім мінчукам калядны падарунак. 7 — 8 студзеня ў культурна-асветніцкім цэнтры пройдзе музычны спектакль "Чароўныя льдзінкі".

* 5,5 тысячы дзяцей Гродзеншчыны сустрэнуць Новы год і адпачнуць у зімніх летніках дзённага знаходжання.

* Тэлевізар, відэакамеру, відэамагнітафон або іншую каштоўную рэч атрымаюць у падарунак ад аблвыканкама ўсе дзіцячыя дамы і школы-інтэрнаты для сірот Віцебскай вобласці.

* Ва ўсіх раёнах Віцебшчыны на канікулах пройдуць выставы дзіцячых работ мастацкай і дэкаратыўна-прыкладной творчасці "Дзівосы зімы".

* На "Каляды-калядачкі, казкі-ладачкі" запрашае на канікулах дзяцей Белдзяржфілармонія. У праграме выступяць дзяржаўны ансамбль "Харошкі" і дзіцячая харэаграфічная школа Мінска.

Галіна СІДАРОВІЧ.

## "Маска" для гадзінніка ёсць!

### ПАДВЕДЗЕНЫ ВЫНІКІ КОНКУРСУ "НАСТАЎНІЦКАЙ ГАЗЕТЫ" І МІНСКАГА ЗАВОДА "ЭЛЕКТРОНІКА"

Усяго на конкурс паступіла 315 малюнкаў, пераважная большасць якіх (90 працэнтаў) — ад юных мастакоў з сельскай мясцовасці. Сярод калектыўных аўтараў — валожынская школа № 1, адкуль паступіла 70 эскізаў, 3 "Б" клас 16-й школы Барысава. Асноўны ўзрост удзельнікаў конкурсу 10—15 гадоў.

Калектыў мастакоў аддзела знешніх афармленняў завода "Электроніка" вызначыў пераможцаў. Імі сталі:

Наташа ШАЎРОВА, сямікласніца з Полацка.

Святлана СТАЛЯРОВА, вучаніца 10 класа з вёскі Слабада Расонскага раёна Віцебскай вобласці.

Саша БЕЛІК, трэцякласнік са Слуцка.

Па матывах іх малюнкаў будуць выраблены шкломаскі для гадзіннікаў, якія пойдуць у серыйную вытворчасць.

Завод таксама вырашыў заахвоціць шэраг удзельнікаў конкурсу. Сярод іх:

Наташа ЛІТВІНОВІЧ, вучаніца 4 "В" класа школы № 16 Пінска — за арыгінальнае мастацка-канструктыўнае рашэнне браслета-гадзінніка з крышкай, які трансфармуецца ў кулон.

Наташа ВАСІЛЕВІЧ, вучаніца 9 класа з вёскі Бердаўка Лідскага раёна Гродзенскай вобласці — за 21 малюнак, выкананы ўсяго ў трох-чатырох спалучэннях колераў.

Таня МАКАРЭВІЧ, вучаніца 3 класа з мястэчка Крывічы Мядзельскага раёна Мінскай вобласці — за цікавыя прапановы па канструкцыі гадзінніка.

Наташа САВЯНОК, васьмікласніца з вёскі Сасноўка Слонімскага раёна Гродзенскай вобласці — за цікавае мастацкае і канструктарскае афармленне гадзінніка ў выглядзе зайчыка.

Толя ЧЫЧАЛЬ з пасёлка Лынтупы Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці — за цікавыя прапановы па вырабу гадзінніка.

Дзіма ШЫМБАРЭЦКІ, 17 гадоў, з Ваўкавыска Гродзенскай вобласці — за добрыя кампазіцыйныя рашэнні масак.

Наташа, Лена і Аксана АСОВІКІ з вёскі Дэмбрава Шчучынскага раёна Гродзенскай вобласці — за цікавыя прапановы па канструкцыі гадзінніка і варыянты знешняга афармлення, вырашанага ў адным стылі.

Галя МАРОЗ, дзесяцікласніца з пасёлка Арэхаўскі Брэсцкай вобласці — за 20 шматколерных кампазіцый.

Дызайн-студыя "ДАНКА" з Магілёва — як калектыўны аўтар (112 эскізаў).

Усім будуць уручаны гадзіннікі "Электроніка", студыя "Данка" атрымае падзячнае пісьмо дырэктара завода Уладзіміра Віктаравіча Вярбіцкага.



## ПРАГНОЗ-95

# Якой Вам бачыцца адукацыйная сістэма Беларусі ў надыходзячым годзе? Ваша ўяўленне пра школу (сярэднюю, прафесійна-тэхнічную, вышэйшую) у будучым?

### СВАІМІ ДУМКАМІ ПА ГЭТЫХ ПЫТАННЯХ "НАСТАЎНІЦКАЙ ГАЗЕТЫ" ДЗЕЛЯЦЦА:

### Галіна БАЛАХОЎСКАЯ, настаўніца Гацукоўскай сярэдняй школы Слуцкага раёна

— У новым, 1995 годзе, як і на ўсё астатняе наша жыццё, школа мне бачыцца нацыянальнай. Толькі такой, і ніякай іншай. Аднак, на жаль, пакуль пра гэта можна толькі марыць, жыццё таму сведка.

Чаму стаю за школу нацыянальную? Бо лічу, што толькі ў ёй, роднай, беларускай — змогуць адчыніцца дзверы для свабоднага, творчага развіцця дзіцяці. Такое дзіця будзе самім сабою, яно не будзе ўціснута ў рамкі нейкіх ідэалагічных прынцыпаў. У той жа час яно не будзе разбэшчаным і бескультурным, само будзе разбірацца ў складаных жыццёвых сітуацыях, таму што будзе вучыцца і выхоўвацца на лепшых традыцыях свайго народа.

Які сэнс я ўкладваю ў паняцце "нацыянальная школа"?

Па-першае, праграмы і ўсё навучанне павінны быць накіраваны на тое, каб у дзіцячай свядомасці, і менавіта на пачатковым этапе, што істотна важна, быў закладзены падмурак свайго, нацыянальнага. У гэтым узросце дзеці павінны ўвабраць у сябе ўсё тое лепшае, што створана беларусамі на працягу свайго існавання, сваёй гісторыі. Добрае ж веданне нацыянальнай культуры адкрые для нашых нашчадкаў шырокія абсягі для пазнання сусветнай культуры.

Па-другое. Я згодна з тым, што ў сучаснай школе патрэбна дыферэнцыяцыя навучання. Гэта запатрабуе поўнага перагляду ўсіх падручнікаў. Падручнікі павінны быць даступнымі, цікавымі, ілюстраванымі (чаго няма сёння), каб яны развівалі творчы патэнцыял дзіцяці, каб па іх было цікава вучыцца нашым дзецям. Кожны вучань — асоба. Нацыянальная школа павінна яе развіць, выхаваць, накіраваць на самастойны шлях, на плённую працу на карысць незалежнай Беларусі.

У аснове абвешчанай рэформы школы павінна быць нацыянальная ідэя. Аднак на сённяшні дзень у мае мары цяжка паверыць, бачачы нігілістычныя адносіны нашых улад да роднай мовы, да культуры, да Бацькаўшчыны. Пакуль, на жаль, больш слоў, чым спраў.

Вось такі мой настрой напярэдадні цудоўнага свята.

А ў дадатак да сваіх думак нагадаю ўсім нам добра вядомыя, цудоўныя радкі Янкі Купалы:

Стаім мы перад будучыняй нашай
І ўсё варожым, сочым яе ход...
Ці ўскрэснем мы з душою ўпаўшай, звяўшай,
Каб выйсці ў свет, як нейкі здольны род?

### Пётр ШУПЛЯК, дэкан гістарычнага факультэта Белдзяржуніверсітэта

— Год мінулы быў для мяне вельмі адметны па многіх прычынах. Гэта быў той год, калі новая сістэма гістарычнай адукацыі набыла канкрэтны змест. З'явіліся ў свет беларускія падручнікі, створаныя на аснове новай канцэпцыі гістарычнай адукацыі. Яны фарміруюць у маладога пакалення новы погляд на гістарычны працэс, новыя адносіны да сваёй Радзімы, яе незалежнасці, адраджэння нацыянальных традыцый і культуры.

Змены адбыліся не толькі ў агульнаадукацыйнай, але і ў вышэйшай школе. У гэтым годзе на нашым факультэце падрыхтаваны новыя гістарычныя праграмы, створаны новыя навучальныя планы.

У 1994 годзе ў Міністэрстве юстыцыі афіцыйна зарэгістравана Беларуская асацыяцыя гісторыкаў. Думаю, што ў межах асацыяцыі мы зможам вырашаць многія свае надзённыя пытанні.

І, бадай, адна з галоўных падзей мінулага года — юбілей гістарычнага факультэта, якому споўнілася 60 гадоў. Да гэтага юбілею, а адбыўся ён у кастрычніку, мы рыхтаваліся цэлы год. Гэта быў год напружанай працы. Мы імкнуліся знайсці новыя падыходы да выкладання гісторыі. Была праведзена навуковая канферэнцыя сярод студэнтаў і выкладчыкаў. Разам са сваімі калегамі з іншых навучальных устаноў мы шукалі новыя шляхі вырашэння надзённых задач.

У лістападзе я прымаў удзел у міжнародным семінары, які праходзіў у Берліне пры падтрымцы Еўрапейскага Савета, па тэме "Агульнаеўрапейскія падыходы ў выкладанні гісторыі". Ён быў карысны ў плане абмену вопытам з гісторыкамі іншых краін.

Радуе мяне і тое, што ў мінулым годзе конкурс на наш факультэт застаўся стабільны. Гэта гаворыць аб тым, што цікавасць да гістарычнай навукі ў моладзі не змяншаецца.

У годзе наступным мае спадзяванні, як чалавека і гісторыка, звязаны з тым, што ўрэшце наступіць стабільнасць у грамадстве. Наш урад будзе лепш адносіцца да сістэмы адукацыі, таму што ў будучым мы павінны мець інтэлектуальна развітую нацыю. Калі сёння на гэтым эканоміць, заўтра страты могуць быць значна большымі.

Вельмі жадаю я, каб перасталі мы дзяліцца на левых і правых, а аб'ядналіся вакол адзінай нацыянальнай ідэі. Мы павінны імкнуцца, каб край наш квітнеў, і ўсё рабіць дзеля гэтага

### Уладзімір МАКАРАЎ, рэктар Мінскага лінгвістычнага універсітэта

1. Лінгвістычны універсітэт развіваецца з 1994 годам у стане трывогі. Многа было розных праблем, якія ўвогуле ніяк не звязаны з адукацыяй. І ўся справа — у недастатковым фінансаванні.

Добра яшчэ, што не было перабояў з зарплатай, няхай мізэрнай, для выкладчыкаў і дапаможнага персаналу, не было перабояў са стыпендыяй, няхай таксама вельмі маленькай, для студэнтаў. Але ж гэта толькі minimum minimorum ад таго, што патрабуецца, нават па самых сціплых мерках. Вышэйшая школа не можа існаваць без руху ўперад. Трэба ўводзіць новыя курсы, адкрываць новыя спецыяльнасці, новыя кафедры і факультэты, асвойваць больш дасканалыя падыходы да навучальнай і навуковай дзейнасці, пашыраць інфармацыйную базу. На ўсё гэта сродкаў катасрафічна не хапае.

І ўсё ж вышэйшая школа жыве, жыве дзякуючы традыцыям, высокай адказнасці бальшыні выкладчыкаў. Жыве і таму, што моладзь ідзе ва універсітэт, па нашым назіранні, з усё больш асэнсаваным і больш моцным жаданнем вучыцца. Значыць, насуперак песімістам, не высахла крыніца цікаўнасці і інтарэсу да ведаў. Ды і сярод выкладчыкаў узмацняецца імкненне да прафесійнага ўдасканалення. Хаця пры цяперашніх праблемах можна было б цалкам рушыць на "адыходныя промыслы", дзе і больш лёгкая праца, і даўжэйшы рубель, а то і даляр. Аднак сярод найбольш актыўных асістэнтаў і студэнтаў-выпускнікоў усё больш жадаючых падацца ў аспірантуру, і ўсё часцей вопытныя дацэнты звязваюць свае планы з дактарантурай. Усё гэта вельмі радуе.

2. У новым, 1995 годзе спадзяёмся прадоўжыць курс на мадэрнізацыю асноўных бакоў нашай дзейнасці. Галоўнае, канешне, у тым, каб падняць якасць навучання. Для гэтага неабходна ўкараненне эфектыўных навучальных тэхналогій, канцэптуальна гэта ўжо адпрацавана.

Неабходна ўдасканальваць змест навучальнага працэсу, накірунак гэтай работы ў нас таксама вызначаны. Думаем палепшыць кіраўніцкую структуру, тут таксама ўсё больш-менш зразумела, асабліва ў тым, што тычыцца камп'ютэрных прынцыпаў аўтаматызаванага кіравання. А агульны арыенцір дастаткова выразны: дабіцца ўжо ў 1995 годзе ўмацавання універсітэта. У 1994 годзе для гэтага зроблены важныя крокі. Мы прайшлі Міжнародную экспертызу па лініі ААН па пытаннях адукацыі, навукі і культуры (ЮНЕСКО).

Гэта адкрыла для нас перспектыву ў галоўных нашых памкненнях, з аднаго боку, і дапамагло зразумець, у чым мы адстаем, — з другога. Нас прынялі ў еўрапейскую праграму "ТЭМПУС", якая дазваляе больш эфектыўна праводзіць мадэрнізацыю універсітэта і ў значнай ступені вырашыць вельмі важную для нас праблему моўных і краязнаўчых стажыровак для выкладчыкаў і студэнтаў. І калі б у рэспубліцы захаваліся павага і разуменне важнасці універсітэцкай адукацыі (а ў гэта надта хочацца верыць), то можна было б спадзявацца, што, нягледзячы на ўсе цяжкасці, вышэйшая школа зможа выканаць свой абавязак перад грамадствам.

### Мікалай ЛАГОДЗІЧ, дырэктар ПТВ №5 тэкстыльшчыкаў г. Баранавічы

— Нягледзячы на крызіснае становішча нашага жыцця, прафесійна-тэхнічная адукацыя імкнецца захаваць свае лепшыя традыцыі, выконваючы галоўную сваю мэту: сацыяльную абарону нашай моладзі. Багатая матэрыяльна-тэхнічная база ПТВ, яе высокі інжынерна-педагагічны патэнцыял дазваляюць падтрымаць адукацыйны ўзровень, не ніжэйшы за міжнародны стандарт.

Наступаючы новы год падорыць нам, нарэшце, Закон аб прафесійнай адукацыі, які раскрывае перад намі яе новыя перспектывы.

Многа надзей звязваем у будучым годзе і з рэформай адукацыі. На маю думку, у нашай сферы трэба звярнуць увагу на змяненне тэхналогій навучання, а таксама на разумнае, больш эфектыўнае спалучэнне прафесійных і агульнаадукацыйных прадметаў. Хацелася б, каб прафесійнаму навучанню адводзілася намнога больш гадзін, а прадметы, якія звязаны з агульным развіццём асобы, вывучаліся б па выбары.

Наша вучылішча ўвесь час свайго існавання рыхтавала кадры для Баранавіцкага бавоўнянага вытворчага аб'яднання. І калі яго, як і многія прадпрыемствы, напаткаў крызіс, а нашы выпускнікі не сталі атрымоўваць рабочыя месцы, вучылішча перапрафілявалася. Акрамя тэкстыльшчыкаў, мы сёння рыхтуем спецыялістаў для абутковай і швейнай прамысловасці.

Каб наш выпускнік быў канкурэнтаздольным на рынку працы, займаемся пошукам аптымальнай мадэлі спецыяліста-універсала, шукаем шляхі павышэння якасці падрыхтоўкі. У гэтым плане эфектыўнай з'яўляецца паэтапная атэстацыя, пры якой ацэньваецца прафесійнае майстэрства пасля кожнага курса навучання і ў выніку прысвойваецца адпаведны разрад. Маем у гэтым накірунку і здабыткі. Відаць, невыпадкова навучэнцаў нашага вучылішча запрасілі на вытворчую практыку спецыялісты-абутнікі з чэшскага горада Капшэвіца. Зараз 20 навучэнцаў ужо асвойваюць там новыя тэхналогіі. У наступным годзе такое супрацоўніцтва прадоўжыцца.

# Шчасця Вам у Новым годзе!

## ГЭТА БЫЛО Ў 1994-м







## СВЯТОЧНЫ КАРАГОД

# Чым запомніўся Вам 1994 год? Якія падзеі Вы звязваеце з годам надыходзячым?

### НА ГЭТЫЯ ПЫТАННІ АДКАЗВАЮЦЬ:

**Марыя ГУЦ,
настаўніца ліцэя
пры Полацкім дзяржаўным універсітэце**

— Чым запомніўся 1994-ы? Відаць, тым, што ў гэтым годзе з сярэдняй школы № 2 Наваполацка я перайшла працаваць у ліцэй разам з чатырнаццаццю вучнямі майго класа, якія займаюцца цяпер у 10-м.

Што ж да года новага, наступаючага, то з ім я звязваю надзеі на лепшае. Увесь наш педагагічны калектыў спадзяецца, што 1995-ы стане годам пераломным, і жыццё беларускага настаўніцтва палепшыцца. Хоць падчас прэзідэнцкіх выбараў я галасавала за Зянона Станіслававіча Пазняка, але, думаю, яшчэ мала часу прайшло, каб сённяшні прэзідэнт нашай краіны мог у поўнай меры рэалізаваць сваю перадвыбарную праграму. Адным словам, спадзяёмся на лепшае.

**Таццяна МАКРЫЦКАЯ,
настаўніца сярэдняй школы № 2 Наваполацка**

— Выкладаю родную мову і літаратуру ў адным 5-м класе, у адным 7-м, спартыўным і ў трох 8-х. Выкладаю ў гэтай школе першы год.

Запомнілася творчая справаздача, якая праходзіла ў сярэдняй школе № 11, па абагульненні вопыту выкладання роднай мовы і літаратуры. У абласным інстытуце ўдасканалення настаўнікаў чытала лекцыі, што таксама было цікава. Запомніліся Віцебскія педагагічныя чытанні па новых метадах навучання (нестандартныя ўрокі), дзе ад абласнога ўпраўлення адукацыі я атрымала грамату. Запомніўся ўдзел ў журы гарадскога конкурсу "Настаўнік года". Муж у мяне таксама настаўнік, сын заканчвае школу, таму і жывём мы ў асноўным жыццём школы. Чытаем "Настаўніцкую газету", абмяркоўваем артыкулы.

У новым годзе спадзяёмся на лепшыя ўмовы працы, асабліва для настаўнікаў роднай мовы і літаратуры. Магчыма, у школу паступяць новыя дапаможнікі, падручнікі па той жа беларускай літаратуры (сёлета ніводнай праграмы па літаратуры ў школы не паступіла). На жаль, па-ранейшаму не хапае выкладчыкаў, якія могуць выкладаць па-беларуску фізіку, хімію, біялогію, іншыя прадметы. Хочацца, каб у новым годзе сітуацыя з беларускай мовай палепшылася. Праўда, апошнія і неаднаразовыя негатыўныя, а часта і зняважлівыя, выказванні кіраўніка краіны пра маю родную мову выклікаюць вялікую трывогу.

**Ларыса ПЯТРОВІЧ,
загадчыца дзіцячага сада № 80 Мінска**

—Гэты год быў асабліва адметным у жыцці нашага калектыву. Нядаўна нам споўнілася 25 год. Так, менавіта 25 год існуе наш дзіцячы сад "Раніца", а з іх тры апошнія гады ён працуе як беларускамоўны. І дзеці, і бацькі, і педагогі з задавальненнем і добрым настроем пераступаюць штодзень парог нашай дашкольнай установы, у якой створаны спрыяльныя ўмовы для паспяховага выхавання нашых юных грамадзян. У гэтым годзе мы пачалі здзяйсняць даўно задуманае педагогамі, кіраўніцтвам сада, раённага аддзела адукацыі: арганізавалі сумесную педагагічную дзейнасць Маскоўскага раённага аддзела адукацыі і камерцыйнай фірмы "Таміра-А". Дзве групы нашых выхаванцаў пачалі займацца па новых методыках. У першай групе педагогі-выхавацелі працуюць з дзецьмі, выкарыстоўваючы элементы методыкі Марыі Мантэсоры. У другой групе дзеці займаюцца па выхаваўчай праграме маскоўскіх педагогаў Краўцовых, якая называецца "Залаты ключык".

У наступаючым 1995 годзе мы з ахвотай працягнем нашу працу з дзецьмі па новых эксперыментальных праграмах і методыках, якія прапанавала нам Міністэрства адукацыі і навукі.

Хочацца пажадаць сваім калегам-педагогам, нашым выхаванцам, іх бацькам, дзядулям і бабулям, каб у новым, 1995 годзе іх жыццё палепшылася, каб было у ім больш радасці, шчасця, добрага настрою...

**Наталля КУПРАЦЭВІЧ,
настаўніца Хаўхлянскай школы
Буда-Кашалёўскага раёна**

— Якія ўражанні пакідае аб сабе мінулы, 1994 каляндарны год, якія надзеі мы, маладыя, звязваем з годам наступаючым?

На жаль, уражанні не вельмі ўсцешныя ў сэнсе ўладкаванасці. Няўтульны і цесны пакойчык замест добраўпарадкаванага жытла, добра яшчэ, што хоць торфабрыкету на ацяпленне гэтага інтэрнацкага пакойчыка ўдосталь далі.

Не толькі з побытам мулка, а і з харчаваннем не надта: калі спажываць харчы з магазіна, то хто зможа раскашаваць на 160 тысяч рублёў у нашы дні?

Аднак нават у такім становішчы стараліся і стараемся трымаць высокую мерку вясковага народнага настаўніка асабістым узорам жыцця і паводзін. Разам з дзеткамі ў сёлетнім годзе многа навыраблялі прадметных папак, картак па літаратуры, іншага раздатачнага матэрыялу. У гэтым сэнсе 1994 год быў суцяшальным.

Хочацца спадзявацца, што жыццёвая неўладкаванасць адрынецца. І што заработная плата стане трывалейшаю, і падручнікі не будзем больш пазычаць у багацейшых школах. Хочацца верыць, што і мэблі ў нашай школе на 38 вясковых хлапчукоў і дзяўчынак пабольшае, і дыдактычнага матэрыялу, і навучальных дапаможнікаў, а мы, настаўнікі, не будзем дарагі нам асабісты жыццёвы час марнаваць на самаробныя прыстасаванні, плакаты ды карткі.

Вось такім, больш напоўненым і шчаслівым для нас, настаўнікаў, і для нашых выхаванцаў, і для ўсіх беларускіх вяскоўцаў хочацца мне бачыць наступны — год 1995-ы.

МІЛАСЭРНАСЦЬ

## Дом, які атуляе цяплом

Мае гады, маё багацце — словы шыракавядомай песні. А як у жыцці? Бывае, старому чалавеку, стомленаму лёсам і гадамі, хвораму і адзінокаму, няма куды прытуліцца. На жаль, сярод такіх нямала і педагогаў. Яны цяпер вымушаны жыць вось тут — у Лагойскім доме-інтэрнаце.

264 чалавекі знаходзяцца ў ім. Розныя ў іх прафесіі, розны ўзрост, а вось дом — для ўсіх адзін. Хто можа, яшчэ працуе — непасрэдна ў доме ў якасці малодшага персаналу або на падсобнай гаспадарцы. Дом атуляе ўсіх сваім цяплом, клопатам, лячэннем.

Безумоўна, як і паўсюдна, тут таксама хапае розных праблем. Але іх вырашае калектыў дома-інтэрната, які ўзначальвае амаль 10 гадоў прафесійны педагог Наталля Іванаўна Сямашка. Мо таму ёй удаецца наладжваць душэўны дабрабыт састарэлых, знаходзіць падтрымку калектыву, арганізоўваць нясумнае жыццё людзей. І доўжацца іх гады: некаторым ужо за 100.

Дык няхай жа і Новы, 1995-ы, год прынясе жыхарам гэтага цёплага дома многа светлых дзён!

НА ЗДЫМКАХ: дырэктар Лагойскага дома-інтэрната Н.І.СЯМАШКА. Жыхары дома-інтэрната.

Фота Мікалая БУДЧАНІНА.

## Разам — дружная сям'я

У нашай школе сумесна з Ацмінаўскім цэнтральным Домам культуры праведзены вечар сям'і.

Вечар стаў своеасаблівай справаздачай школы перад бацькамі. Для гасцей падрыхтавалі "салодкія" сталы. Працавалі ўсе: кіраўнікі гурткоў і класаў, вучні, настаўнікі.

Музыкай, цудоўнымі словамі пра бацькоўскую хату, вітаннем усіх прысутных пачалося свята. Песні пра Радзіму, пра каханне, беларускія народныя песні гучалі ў выкананні настаўніцкай вакальнай групы і вакальнай групы Ацмінаўскага ЦДК. Цікавыя сцэны з сямейнага жыцця паказаў тэатральны калектыў, які складаецца з настаўнікаў і ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці Дома культуры. На заканчэнне праграмы літаратурна-драматычны гурток "Спадчына" падрыхтаваў "Вячоркі", у якіх выконваліся песні і танцы нашых бацькоў, бабуль і дзядуль. Таты і мамы мелі магчымасць паказаць і свой спрыт, і ўменне ў хатніх справах. Пераможцы конкурсаў атрымалі прызы.

Нам, выкладчыкам, вельмі прыемна, што бацькі ацанілі нашу працу, бо іх ацэнка і ацэнка вучняў для нас — самае галоўнае. Хочацца верыць, што ўзаеміны настаўнікаў, бацькоў і дзяцей будуць і ў новым годзе дапамагаць вырашаць найбольш важныя задачы навучання і выхавання.

**Аксана КАРПОВІЧ,
намеснік дырэктара па
выхаваўчай рабоце
Ацмінаўскай сярэдняй школы**

# СОРАСАЎСКІЯ НАСТАЎНІКІ

## ВЫНІКІ КОНКУРСУ МІЖНАРОДНАЙ СОРАСАЎСКАЙ ПРАГРАМЫ АДУКАЦЫІ Ў ГАЛІНЕ ДАКЛАДНЫХ НАВУК

Завяршылася вялікая работа, праведзеная Беларускім аддзяленнем Міжнароднай Сорасаўскай Праграмы адукацыі ў галіне дакладных навук па адборы пераможцаў па падпраграме "Падтрымка найбольш каштоўных дасягненняў настаўнікаў у сярэдніх школах", якая была пачата ў маі 1994 г. Мелася на ўвазе на аснове конкурсу вызначыць 60 лепшых настаўнікаў Рэспублікі Беларусь з выплатай ім гранта "Сорасаўскага настаўніка сярэдняй школы" на працягу навучальнага года — 10 месяцаў, пачынаючы з 1 верасня 1994 г. На пасяджэнні Рэспубліканскай Рады ISSEP 29 верасня 1994 года было вырашана павялічыць колькасць Сорасаўскіх грантаў для настаўнікаў удвая — адпаведна паменшыўшы яго памер — з тым, каб заахвоціць большую колькасць творча працуючых педагогаў. Такім чынам, 120 настаўнікаў Беларусі, якія выкладаюць матэматыку, фізіку, хімію і біялогію, атрымалі гранты Сораса — вельмі значную дапамогу для падтрымання іх добрых памкненняў у справе выхавання падрастаючага пакалення.

Ад імя Джорджа Сораса мы шчыра віншуем усіх настаўнікаў, якія атрымалі гранты, ад усёй душы дзякуем тым, хто адгукнуўся на наш "Апытальнік", але не ўвайшоў у лік пераможцаў у гэтым сапраўды нялёгкім конкурсе, і спадзяёмся, што ўсе яны прадоўжаць свае слаўныя справы яшчэ больш самааддана.

Цяпер падрастае наша будучыня, фарміруецца свядомасць тых, хто заўтра будзе вызначаць узровень жыцця нашага грамадства.

Моцнага здароўя Вам — дарагія нашы настаўнікі і выхавацелі!

Першапачатковую інфармацыю пра настаўнікаў мы атрымалі ад іх былых вучняў — студэнтаў розных ВНУ Беларусі. Усяго было апытана каля 1800 студэнтаў. Па выніках анкетавання створана камп'ютэрная база даных, якая ўключае ў сябе больш як 3500 запісаў.

Каля 5 працэнтаў прозвішчаў настаўнікаў было атрымана з так званых рэферэнтных спісаў. Такім чынам у лік кандыдатаў увайшлі педагогі, чые вучні паспяхова ўдзельнічалі ў рэспубліканскіх алімпіядах. Гэтыя спісы прадаставілі па нашым запыце Завочная фізіка-матэматычная і хімічная школа (Мінск), Усерасійская завочная шматпрадметная школа (Масква), Вылічальна-аналітычны цэнтр Міністэрства адукацыі і навукі, Творчае аб'яднанне педагогаў, Асацыяцыя педагогаў-даследчыкаў.

У выніку былі адабраны 900 педагогаў, якім разаслалі "Апытальнік для выкладчыкаў школ, вылучаных на Сорасаўскі грант настаўніка сярэдняй школы". Тэрміны прысылкі адказаў прыйшліся на час летніх водпускаў і былі абмежаваны 1 верасня 1994 г., але затым мы прадоўжылі прыём "Апытальнікаў" да 15 верасня.

Атрымана 437 адказаў, з якіх 69 суправаджаліся пісьмамі, дзе былі добрыя словы ў адрас Праграмы, роздум аб настаўніцкай прафесіі, аб складанасцях сучаснай сацыяльнай сітуацыі, якія адбіваюцца як на тых, каго вучаць, так і на тых, хто вучыць.

Для далейшага аналізу атрыманых даных мы распрацавалі сістэму балавых ацэнак адказаў на "Апытальнік". Такім чынам, кожны настаўнік сам вызначаў свой лёс у конкурсе. Пераможцы конкурсу вызначаліся па фармальных прыкметах. На жаль, некаторыя настаўнікі адказвалі на пункты "Апытальніка" не поўна або ўвогуле аднесліся да нашага "Апытальніка" з недаверам.

На наступным этапе конкурсу былі выдзелены лідэры, якія набралі больш як 200 балаў. У гэту групу ўвайшлі 174 выкладчыкі. Акрамя колькасных паказчыкаў, прымалася да ўвагі і іншая інфармацыя аб прафесійнай дзейнасці прэтэндэнтаў. Разумеючы, наколькі цяжкія ўмовы працы педагогаў у сельскай мясцовасці ў параўнанні з умовамі працы іх калег са сталіцы ці абласнога цэнтра, мы імкнуліся адзначыць тых настаўнікаў з глыбінкі, якія праяўляюць творчую актыўнасць, растуць прафесійна, выхоўваюць граматных вучняў, будучых студэнтаў, пераможцаў алімпіяд і да т.п. Так, пры адборы істотная роля адводзілася метадычнаму пошукава-даследчаму боку дзейнасці настаўнікаў. Падрабязны разгляд з гэтых пазіцый вынікаў анкетавання прэтэндэнтаў дазволіў з 437 чалавек выбраць 120 педагогаў, дастойных, па ўмовах конкурсу, атрымання Сорасаўскага гранта настаўніка сярэдняй школы.

Аналізуючы вынікі апрацоўкі студэнцкіх анкет, мы звярнулі ўвагу на тое, што лепшымі настаўнікамі нярэдка называліся выкладчыкі вышэйшай школы. Гэта былі педагогі падрыхтоўчых аддзяленняў ВНУ, рэпетытары і тыя, хто, акрамя сваёй асноўнай работы, займаецца падрыхтоўкай школьнікаў. Сорасаўскімі грантамі адзначаны загадчык кафедры, старшы выкладчык, дацэнты універсітэтаў і інстытутаў, а таксама цэлая плеяда супрацоўнікаў Беларускага дзяржаўнага універсітэта, якія выкладаюць у ліцэі пры БДУ.

Сярод педагогаў, адабраных на прысуджэнне Сорасаўскага гранта, ёсць і настаўнікі, якія выйшлі ўжо на пенсію. У наш спіс увайшлі 10 чалавек, якія дасягнулі ўзросту 60 гадоў і старэйшыя. Дзевяць з іх працягваюць працаваць. Ім усім прысуджан грант Заслужанага Сорасаўскага настаўніка.

Ужо завяршаецца першы завочны тур Сорасаўскіх школьных алімпіяд. Мы прасілі школьнікаў, якія прысылаюць рашэнні задач Сорасаўскай алімпіяды, указваць прозвішчы настаўнікаў, якія выкладаюць у іх прадмет, па якім гэты вучань вырашыў удзельнічаць у алімпіядзе. Мы рады былі бачыць знаёмыя прозвішчы Сорасаўскіх настаўнікаў і якія прэтэндавалі на атрыманне гранта ў 1994 г. Гэты банк даных будзе выкарыстаны ў наступным конкурсе на грант Сорасаўскага настаўніка.

Улічваючы тое, што Джордж Сорас згадзіўся прадаўжаць гэтую падпраграму і ў 1995 годзе, Беларускае аддзяленне Міжнароднай Сорасаўскай Праграмы адукацыі ў галіне дакладных навук звяртаецца да ўсіх настаўнікаў фізікі, матэматыкі, хіміі і біялогіі, і асабліва да Сорасаўскіх настаўнікаў, з просьбай выказаць свае заўвагі і прапановы па ацэнцы прэтэндэнтаў на грант Сорасаўскага настаўніка. Прапановы просім накіроўваць да 31 студзеня 1995 года ў пісьмовым выглядзе з кароткімі звесткамі пра сябе па адрасе: 220072, г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 66, ISSEP. Тэлефон для даведак — 39-57-45. Мы загадзя дзякуем усім, хто адклікнецца на нашу просьбу і дапаможа нам удасканаліць ацэнку дасягненняў прэтэндэнтаў на атрыманне Сорасаўскіх грантаў у галіне адукацыі.

**Анатоль ШУБА,
выканаўчы дырэктар Праграмы ISSEP.**

**Наталля ПОЛІНА,
кіраўнік падпраграмы "Падтрымка найбольш каштоўных дасягненняў настаўнікаў у сярэдніх школах".**

### СОРАСАЎСКІЯ НАСТАЎНІКІ СЯРЭДНЯЙ ШКОЛЫ 1994 года

#### БІЯЛОГІЯ

Буракоў Георгій Аляксандравіч, Брэст
Галай Галіна Васільеўна, Бяроза
Гетман Таццяна Іванаўна, в. Малатковічы
Давідоўская Вольга Арсенцьеўна, Дзяржынск
Дубкоў Сяргей Рыгоравіч, Гомель
Едка Ніна Васільеўна, пас. Лясны
Іванчык Ларыса Мікалаеўна, Радашковічы
Іванюценка Ірына Сцяпанаўна, Мінск
Казубовіч Ларыса Аляксандраўна, Віцебск
Калеснікава Нэлі Сцяпанаўна, Калінкавічы
Кароткая Нэля Аляксандраўна, Гомель
Краўчук Яніна Іосіфаўна, Гродна
Міцкевіч Людміла Сямёнаўна, Мінск
Несцерава Людміла Іванаўна, Орша
Сіткарова Людміла Фёдараўна, Гомель
Шулякоўская Лідзія Іванаўна, Мінск
Шумко Ганна Канстанцінаўна, Барысаў

#### МАТЭМАТЫКА

Варывончык Ганна Сцяпанаўна, Мінск
Волкаў Міхаіл Мікалаевіч, Віцебск
Варановіч Ігар Іванавіч, Мінск
Гараніна Лідзія Мікалаеўна, Мінск
Голухаў Уладзімір Георгіевіч, Мінск
Дзівакова Іна Іванаўна, Магілёў
Доўгань Таісія Іванаўна, г.п. Наваельня
Задворны Барыс Валянцінавіч, Мінск
Карпіч Людміла Сяргееўна, Мінск
Кузняцова Алена Паўлаўна, Мінск
Купрыяновіч Віктар Уладзіміравіч, Наваполацк
Лаўрык Уладзімір Іванавіч, Віцебск
Ламінская Галіна Васільеўна, Новалукомль
Лашкевіч Валянціна Аляксандраўна, Смаргонь
Лін Клара Рыгораўна, Рэчыца
Мартынаў Іван Платонавіч, Гродна
Мураўёва Люся Стэфанаўна, Мінск
Пярловіч Зінаіда Мікалаеўна, Дзяржынск
Рэкеш Паўліна Андрэеўна, Пінск
Роўда Яўгеній Мікалаевіч, в.Нарач
Рамашэўскі Барыс Іванавіч, Смілавічы
Сарычава Акцябрына Мікалаеўна, Гомель
Сінькевіч Дзям'ян Уладзіміравіч, Мінск
Слесарчук Валянціна Уладзіміраўна, Брэст
Таўгень Алег Ігнацьевіч, Мінск
Уланчык Лідзія Пятроўна, Валожын
Фалевіч Марына Зусеўна, Мінск
Фельдман Аляксандр Маркавіч, Мінск
Хаярава Тамара Іванаўна, Баранавічы
Чурбанаў Юрый Дзмітрыевіч, Мінск
Шастак Ларыса Аркадзьеўна, Баранавічы
Яшчын Барыс Юр'евіч, Мінск

#### ФІЗІКА

Ардынцова Зінаіда Міхайлаўна, Віцебск
Барашкаў Валерый Васільевіч, Магілёў
Бацюлеў Анатолій Анатольевіч, Астравец
Бахрах Яўхім Аронавіч, Мінск
Багамолаў Уладзімір Алегавіч, Мінск
Валынец Яўгеній Яўгеньевіч, Барысаў
Гербутаў Валерый Аляксандравіч, Мінск
Гушча Аркадзій Іванавіч, Жодзіна
Дзяшкоўскі Аляксандр Георгіевіч, Баранавічы
Запрудскі Мікалай Іванавіч, Мінск
Зяньковіч Уладзімір Іванавіч, Мінск
Ісачанкава Ларыса Арцёмаўна, Мінск
Красоўская Жанна Фёдараўна, Віцебск
Кунцэвіч Надзея Уладзіміраўна, Мінск
Лаўрыненка Андрэй Уладзіміравіч, Мінск
Лазоўскі Іван Паўлавіч, Слуцк
Ляшчынскі Юрый Дзмітрыевіч, Мінск
Ліпаўцава Ніна Фёдараўна, Брэст
Маеўскі Міхаіл Міхайлавіч, Мінск
Марковіч Леанід Рыгоравіч, Мінск
Мядзведскі Уладзімір Іванавіч, Мінск
Меляшэвіч Людміла Міхайлаўна, Бяроза
Пальчык Генадзій Уладзіміравіч, Мінск
Савянок Аляксандр Фёдаравіч, Маладзечна
Слабадзянюк Анатолій Іванавіч, Мінск
Смірнова Галіна Фёдараўна, Мінск
Стараселец Тамара Фёдараўна, Мінск
Сцяпанаў Сяргей Васільевіч, Магілёў
Стрыжэннікава Тамара Ґаўрылаўна, Горкі
Фатнева Нінэль Рыгораўна, Салігорск
Хаздан Іосіф Барысавіч, Гомель
Хаціловіч Генадзій Юльянавіч, в.Обруб
Янчык Мікалай Казіміравіч, Барысаў

#### ХІМІЯ

Арцюх Надзея Фядотаўна, в.Дамжарыцы
Бабічава Людміла Піліпаўна, в.Слабада
Буглай Леанід Мікітавіч, Мінск
Буката Аляфціна Паўлаўна, Пінск
Дзядкоў Уладзімір Міхайлавіч, Баранавічы
Дзядкова Валянціна Кузьмінічна, пас. Лясны
Дароніна Ірына Паўлаўна, Мінск
Іванова Людміла Міхайлаўна, Віцебск
Калевіч Таццяна Аляксандраўна, Мінск
Корзун Галіна Мікалаеўна, Салігорск
Корсак Георгій Іванавіч, Маладзечна
Кулікоў Святаслаў Уладзіміравіч, Мінск
Ляўко Святлана Васільеўна, Вілейка
Лявонцьева Ала Іванаўна, Пінск
Лашко Галіна Аляксандраўна, Баранавічы
Лузгіна Нэлі Мікалаеўна, Баравуха
Мешчаракова Валерыя Мікалаеўна, Брэст
Міхалёва Эма Якаўлеўна, Магілёў
Пятроўская Валянціна Васільеўна, в.Ахрэмаўцы
Првановіч Маргарыта Паўлаўна, Мінск
Сячко Вольга Іванаўна, Мінск
Скакун Алена Паўлаўна, Мікашэвічы
Скварнюк Валянціна Пятроўна, Наваполацк
Тоўкач Дзмітрый Міхайлавіч, Гродна
Трубкін Аляксандр Іванавіч, Гомель
Фаменка Валянціна Мікалаеўна, Магілёў
Шыцькова Галіна Піліпаўна, Салігорск

### ЗАСЛУЖАНЫЯ СОРАСАЎСКІЯ НАСТАЎНІКІ СЯРЭДНЯЙ ШКОЛЫ 1994 ГОДА

Арэхава Вера Аляксандраўна, Гомель
Бранько Анатолій Анатольевіч, Баранавічы
Гаўрусейка Надзея Паўлаўна, Мінск
Гаркавы Якаў Бенцыянавіч, Ліда
Коршунава Надзея Раманаўна, Мазыр
Нонас Ніна Сцяпанаўна, Віцебск
Перлава Аляксандра Сяргееўна, Мінск
Прыходзька Праскоўя Пятроўна, Гомель
Рубіс Марыя Аляксандраўна, Мінск
Чаплінскі Ірэнеуш Эдуардавіч, Пінск

## ГЭТА БЫЛО Ў 1994-м







РАДАСЦІ ЖЫЦЦЯ

# ЧАМУ Ж НАМ НЕ ПЕЦЬ...

**Песні гэтага калектыву не раз гучалі па тэлебачанні і радыё. А кінастудыя "Беларусьфільм" нават выпусціла прысвечаную яму дакументальную стужку "Чырвоныя гваздзікі".**

Народны мужчынскі вакальны ансамбль прафесараў і дацэнтаў Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта напрыканцы года святкуе сваё 20-годдзе. Хоць і невялікі, а ўсё ж — юбілей.

Ідэя стварыць хор з выкладчыкаў-мужчын узнікла на адным з факультэтаў колішняга інстытута народнай гаспадаркі.

Узначаліў яго дацэнт кафедры замежных моў Сяргей Аляксандравіч Галаўко, які ў свой час скончыў вакальнае аддзяленне Мінскага музычнага вучылішча імя М.І.Глінкі, доўга працаваў у Беларускім дзяржаўным народным хоры, а потым у хоры Беларускага радыё і тэлебачання. Першымі ўдзельнікамі творчага калектыву сталі таксама выкладчыкі, якія захапляліся спевамі ў школьныя і студэнцкія гады.

Першае выступленне адбылося ў час агляду-конкурсу мастацкай самадзейнай творчасці факультэтаў інстытута ў 1974 годзе. Сем дацэнтаў выступілі з дзвюма песнямі. І даволі ўдала. Вось чаму і вырашылі працягваць рэпетыцыі, павялічыць колькасць удзельнікаў і часцей прымаць удзел у канцэртах.

Калектыў паступова папаўняўся новымі таленавітымі выкладчыкамі, улюбёнымі ў песню. Сёння іх ўжо дваццаць два. Гэта дэканы і іх намеснікі, загадчыкі кафедраў — прафесары і дацэнты. І хаця некаторыя з іх ужо не працуюць у эканамічным універсітэце, у рэпетыцыях і канцэртах удзельнічаюць усе.

Чаму іх так цягне да спеваў, мілагучных і ўзрушваючых песняў?

Адны кажуць, таму, што здольны даць студэнтам нешта яшчэ акрамя сваіх прафесійных ведаў, адчуваеш задавальненне, што робіш прыемнае людзям і тым самым паказваеш сваім гадаванцам, што выкладчыкі не нейкае там "сухар'ё" і што яны не пазбаўлены звычайных чалавечых радасцяў.

Іншых вабіць ансамбль тым, што ў ім цікавыя людзі.

Я папрасіў кіраўніка ансамбля Сяргея Аляксандравіча Галаўко крыху расказаць пра сябе і сваё захапленне.

— Пачну з таго, што я нарадзіўся у 1928 годзе ў сям'і цесляра, вядомага на ўсю акругу ў вёсцы Малая Каўпеніца, што ля Баранавічаў. Менавіта Малая Каўпеніца славілася майстрамі розных будаўнічых спецыяльнасцей.

Што тычыцца маіх музычных схільнасцей, то яны, мусіць, па спадчыне. І маці, і яе сёстры, а іх было многа, валодалі прыгожымі галасамі, а бацька і яго браты былі вясковымі музыкантамі і igралі на двухрадках рознага строю, баянах, акардэонах. Вось і я ад іх нешта пераняў. Ва ўсякім выпадку мяне заўсёды цягнула да спеваў. Вельмі хацелася навучыцца іграць на акардэоне, якога ў мяне не было, бо, нягледзячы на мае дзяцінныя слёзы, бацькі доўга не мелі магчымасці яго купіць. А калі купілі, я хутка навучыўся на ім іграць. Мяне пачалі запрашаць на вяселлі, розныя вечарыны.

Калі скончыў беларускую сярэднюю школу №2 у Баранавічах, паўстала пытанне, куды ісці вучыцца. Я паступіў у Мінскае музычнае вучылішча, а праз год стаў студэнтам Мінскага педагагічнага інстытута замежных моў.

Калі я ўспамінаю пра гэтыя гады, заўсёды нагадваюцца словы песні:

На деревне расставание
поют,
Провожают гармониста
в институт...

Атрымалася так, што ў сваю родную старонку вярнуцца не змог. І вось ужо з 1948 года жыву ў Мінску. У БДЭУ працую з 1962 года, стаў дацэнтам, кандыдатам педагагічных навук. Выкладаю французскую мову. На працягу 17 гадоў загадваў кафедрай. Ды і сёння выконваю абавязкі загадчыка кафедры замежных моў №1.

У 1987 годзе мне прысвоена званне Заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь.

Не адразу ў нас усё атрымоўвалася. Спатрэбіўся не адзін год, каб прыйсці да поспеху. Нагадваецца 1978 год. Мы занялі першае месца на абласным аглядзе калектываў мастацкай самадзейнасці выкладчыкаў і супрацоўнікаў вышэйшых навучальных установ. Усё гэта падштурхнула нас узяцца за больш складаны рэпертуар. Прыйшлося вызначыць і свой мастацкі напрамак. Выкананне песень становіцца ўсё больш складаным, многагалосым, акадэмічным, калі хочаце, капэльным, з суправаджэннем фартэпіяна і баяна.

Нас заўважылі і прафесіяналы. Сталі запрашаць для ўдзелу ва ўрадавых мерапрыемствах, канцэртах, розных вечарынах. А ў 1980 годзе калектыву прысвоілі ганаровае званне "Народны". У той вечар наш знакаміты беларускі фалькларыст народны артыст СССР, лаўрэат дзяржаўных прэмій Генадзь Іванавіч Цітовіч, якога мы лічым сваім "хросным бацькам", гаварыў: "Чырвоных гваздзікоў" я слухаў не адзін раз і прыкметна вялікая работа. Нараджэнне такога ансамбля, у якім спяваюць людзі з многімі навуковымі тытуламі, бясконца занятымі на сваёй рабоце, з'ява далёка не ардынарная. І пры тым як хораша спяваюць!"

У студзені 1994 года мы пацвердзілі ганаровае званне ўжо ў чацвёрты раз.

Энтузіясты вакальнага самадзейнага мастацтва, вельмі загружаныя сваімі непасрэднымі прафесійнымі абавязкамі, аддаюць свой вольны час рабоце над песняй, канцэртам.

Большасць выкладчыкаў нашага вакальнага ансамбля чытае курс спецыяльных дысцыплін. Ва універсітэце іх добра ведаюць і як выкладчыкаў, і як навукоўцаў, і як артыстаў з народа. Вось чаму студэнты з яшчэ большай павагай і інтарэсам слухаюць іх лекцыі, больш актыўныя на семінарах, практычных занятках.

Амаль усе выкладчыкі ансамбля ведаюць, што такое Вялікая Айчынная вайна, многія з іх былі самі ўдзельнікамі тых далёкіх вогненных падзей. Вось чаму ў нашым рэпертуары даволі многа песень на патрыятычную тэму, і гучаць яны, як сведчаць слухачы, прафесійна.

**Аляксей СЕРГІЕНЯ.**

УРАЖАННІ АДЫХОДЗЯЧАГА ГОДА

# З такімі калегамі і мора па калена

У гэтым годзе я скончыла Гродзенскі дзяржаўны універсітэт па спецыяльнасці біёлаг. Прыехала ў Баранавіцкі раёна і была накіравана ў Пачапаўскую сярэднюю школу настаўнікам хіміі і біялогіі.

Я трымала ў руках лісток-накіраванне і, баючыся, думала, што мяне чакае далей, як прымуць мяне настаўнікі ў свой калектыў, якія адносіны складуцца ў мяне з вучнямі, кіраўніцтвам.

Мае першыя ўражанні аб школе — звычайная, двухпавярховая, але ў ёй нешта ёсць сваё, асабістае, што адрознівае яе ад іншых школ, дзе мне давялося быць. Прыгожыя кветнікі, акуратна высаджаныя дрэўцы — адразу адчувалася, што кіруе гэтым жаночая рука. Увайшла ў школу і здзівілася: усюды было чыста, прыгожа і акуратна.

Ціха пастукала ў дзверы дырэктара і зайшла. За сталом сядзела жанчына з добразычлівым выразам твару, з усмешкай. Гэта дырэктар школы Казьмерчык Алена Генрыхаўна. Пазнаёміліся. Яна расказала пра школу, настаўнікаў, пацікавілася маім жыццём. Калі я з ёй размаўляла, то мне здавалася, што ведаю яе даўно. У словах яе чулася дабрыня, павага да людзей.

Вось такі быў першы дзень маёй працы. А далей усё пайшло сваім парадкам: першы ўрок, першае знаёмства з вучнямі, першыя адзнакі, сур'ёзная падрыхтоўка да першых урокаў. Не буду хлусіць, былі і цяжкасці: вельмі цяжка знайсці кватэру ў вёсцы, дзякуй Валянціне Іванаўне Баўтко. Але мне ўсе цяжкасці дапамагаюць пераадольваць настаўнікі, намеснікі дырэктара: Антаніна Уладзіміраўна Байдун і Алена Аляксандраўна Бубек. Калектыў дружны, вясёлы, прынялі мяне з павагай. Заўсёды пыталіся ў чым мне патрэбна дапамога, і калі я звярталася да іх, то давалі добрыя парады. Хоць вясковыя настаўнікі такія працавітыя дома, у саўгасе, на сваёй гаспадарцы, але ў іх хапае часу і на падрыхтоўку да ўрокаў, на чытанне газет і часопісаў.

Прыемна ў настаўніцкім пакоі чуць жарты, дзелавыя размовы, парады пра сваіх выхаванцаў.

Аптымізм усіх, асабліва старэйшых настаўнікаў, падтрымлівае і нас, маладых.

Дні беглі хутка, падыходзіла да канца першая чвэрць. 27 кастрычніка ў нашай школе адбыўся семінар дырэктараў сярэдніх школ раёна. Усе настаўнікі і дырэкцыя школы рыхтаваліся да яго: прыводзілі ў парадак класы, рыхтавалі адкрытыя ўрокі, кожны быў заняты сваёй справай. Я таксама прымала ўдзел — рыхтавала заняткі факультатыву па экалогіі. Гэты факультатыў любяць дзеці і, на маю думку, ён патрэбны ім, выхоўвае ў іх любоў да прыроды, беражлівыя адносіны да прадметаў, якія іх акружаюць. Нягледзячы на ўсе мае хваляванні, урок, на мой погляд, і на думку дырэктараў, якія прысутнічалі, быў цікавым: матэрыял падабраны актуальны, змястоўны. Практычнай часткай урока было высаджванне дрэўцаў.

З нецярпеннем усе настаўнікі чакалі водгукаў дырэктараў аб праведзеных уроках, школе. Усё атрымалася добра, бо кіруе гэтым чалавек энергічны, улюбёны ў сваю справу.

Я малады спецыяліст, не маю вопыту, але веру, што ў гэтай школе, побач з такімі калегамі і я стану Настаўнікам.

Заўсёды, калі ў мяне заканчваюцца ўрокі і я іду дамоў, то думаю, атрымаўся ў мяне дзень, ці не, што я зрабіла, а што не змагла, і ў гэты час узнікае пытанне: "Ці правільна я выбрала сваю жыццёвую дарогу?"

Магу з задавальненнем адказаць, што так, іменна гэта тая прафесія, пра якую я марыла з самага дзяцінства.

Мяне паважаюць настаўнікі, любяць дзеці і я стараюся адносіцца да іх так, як яны да мяне. Я класны кіраўнік у 8 класе і заўсёды з захапленнем слухаю ўсё, што дзяўчынкі і хлопчыкі расказваюць пра сябе, слухаю іх сакрэты, часам даю парады.

Была ў мяне сустрэча і з кіраўніцтвам саўгаса, дзе я вырашала асабістае пытанне. У цяперашні цяжкі час у дырэктара саўгаса Мікалая Іосіфавіча Северыненкі хапае часу не толькі на свае клопаты, але і на нашы настаўніцкія, яго ўважлівасць да школы дапамагае нам не падаць духам, а разам дружна выжыць.

Так, я згодна, што настаўніцкая праца нялёгкая, але калі працуеш з такімі людзьмі, то, як гаворыцца ў народнай прымаўцы, тады табе і мора па калена. Я ўдзячна лёсу за тое, што пачатак маёй настаўніцкай працы пачаўся ў далёкай ад цэнтра вёсцы, у цудоўнай школе і з такім настаўніцкім калектывам.

**Таццяна РУДАМАН,**
**настаўніца Пачапаўскай сярэдняй школы Баранавіцкага раёна.**

НАВАГОДНЯЯ ЗАСЫПКА

# КАБ МАЗГІ НЕ "РЖАВЕЛІ"

Шаноўная рэдакцыя! Уношу яшчэ адну прапанову адносна "Клуба матэматыкаў", які нядаўна адкрыўся на вашых старонках. Давайце апрача метадычных публікацый, абмену вопытам і г.д. наладзім конкурс рашэння задач сярод настаўнікаў (накшталт таго, як гэта робіць расійскі часопіс "Математика в школе"). Па ступені цяжкасці няхай яны будуць на ўзроўні школьных алімпіяд. Чаму б нам не праверыць саміх сябе?!

А дзеля праверкі жыццяздольнасці ідэі, і яшчэ, каб і ў святочныя дні даць спажыву розуму, а не толькі страўніку, прапаную 3 навагоднія задачы:

1. Дакажыце, што ўраўненне $а + в = 1995с$ не рашаецца ў натуральных ліках.
2. Што больш: $1994^{1995}$ *або* $1995^{1994}$?
3. Рашыце ўраўненне, не раскладваючы левую частку на множнікі $x^4 - x^3 - 1994x^2 + 1995x - 1995 = 0$

З Новым годам, калегі!

**Васіль МЯШКОЎ,**
**настаўнік матэматыкі Рэдзігераўскай школы Лунінецкага раёна.**

ВЕРШАВАНАЯ ПАШТОЎКА

# НОВЫ ГОД

Новы год, Новы год —
Ты — для ўсіх
загадка.
Вельмі ж хоча народ,
Каб было ўсё
гладка.

Каб навекі закрыў
Страшны зеў
Чарнобыль.
І каб кожны забыў
Пра свае хваробы.

Каб раслі заўжды ў нас
Жыта і пшаніца,
Каб маглі ў свой час
Хлопцы ажаніцца.

Каб радзіліся ў сям'і
Хлопчыкі, дзяўчынкі,
І каб рэдка былі
Горкія памінкі.

І яшчэ каб расла
Родненькая бульба,
І каб моцнай была
Між народаў
дружба.

На стале каб было
Беленькае сала,
І каб наша жыццё
Разумнейшым стала.

**Ніна ЗАХАРЭВІЧ,**
**настаўніца.**



ПРЫМІЦЕ ВІНШАВАННІ!

# Ад шчырага сэрца

**Эдуард ХАНОК,**
**кампазітар**

— Мінулы год быў адметны, бадай, тым, што ў нас пачалося плённае супрацоўніцтва са спеваком Аляксандрам Саладухам. Вы, відаць, чулі песні ў яго выкананні: "Бізнесменчык", "Вольная птушка". Прыемна, што ў старым годзе нам удалося выпусціць у свет песню "Жавароначкі" ў выкананні Алесі (ансамбль "Сябры"). У годзе, з якім развітваемся, пачалася наша творчая садружнасць з Генадзем Бураўкіным, паэзію якога я вельмі люблю. І яшчэ, бадай, адна прыемная падзея, якую нам падараваў год мінулы — упершыню дэбютавала на сцэне з песняй наша дачка Святлана.

Усім работнікам адукацыі жадаю аптымізму ў новым годзе і хачу падарыць вам, шаноўныя педагогі, наш сямейны лозунг: "Як бы нам цяжка ні было, усё роўна мы выстаім. Мы пераможам!" З Новым годам, сябры!

**Алесь СТАВЕР,**
**паэт**

— Кожны чалавек чакае ад Новага года нечага новага, спраўджвання сваіх надзей, і я спадзяюся выдаць кнігу гумарыстычных вершаў "Усмешкі — промні душы чалавечай".

Вершы друкаваліся ў ранейшых зборніках, але цяпер сабраў іх разам. Пакуль выйдзе кніга, збіраюся прынесці рукапіс у "Настаўніцкую газету", каб настаўнікі маглі пазнаёміцца з ім напярэдадні выхаду зборніка. Буду ў новым годзе рыхтаваць яшчэ адзін зборнік "Водсвет маладзіка" (з серыі "Бібліятэчка беларускай паэзіі"), які плануецца на 1996 год.

Па ўсёй Беларусі ў мяне шмат сяброў-настаўнікаў: часта выступаў у школах краіны. Выступаю і зараз. Напрыклад, у мінулым месяцы разам з Алесем Махначом — пісьменнікам, удзельнікам абароны Брэсцкай крэпасці — у нас было чатырнаццаць сустрэч у школах.

У вершы "Памятник" Аляксандр Пушкін вызначыў вартасці паэта:

И долго буду тем любезен я народу,
Что чувства добрые
Я лирой пробуждал...

Гэтыя словы можна цалкам аднесці і да працы настаўніка. Менавіта настаўнік абуджае добрыя пачуцці ў дзіцячых сэрцах, раскрывае шырокія жыццёвыя краявіды, кліча на спраўджванне прыгожых памкненняў.

Такія думкі я чытаў і ў пісьмах касманаўта Кавалёнка, чуў ад сваіх равеснікаў.

У паэтаў і настаўнікаў прызначэнне і доля аднолькавыя. Нялёгкая, напружаная праца і шчырая ўдзячнасць сучаснікаў, нашчадкаў.

Як былы настаўнік я пажадаю маім калегам у Новым годзе бадзёрасці, энтузіязму, каб мужнела і квітнела наша слаўная Беларусь. А яшчэ дару Вам, шаноўныя, свой навагодні верш.

### СУСТРЭЧА З ДЗЕДАМ МАРОЗАМ

Неспадзеўку вечаровым часам
Завітаў на ёлку Дзед Мароз.
— Мір у хату! — мовіў крэпкім басам,
Спрытна іней з барады абтрос.

І, пачуўшы нашае вітанне,
Задуменны каля ёлкі стаў,
Многа добрых, шчырых пажаданняў
Нам з усмешкай ветліва сказаў:

— Я па ўсёй Рэспубліцы праходзіў,
Шмат людзей руплівых сустракаў.
Спадзяюся, што ў наступным годзе
Я пабачу многа добрых спраў.

Каб жыла прыгожа і вясёла
Наша беларуская сям'я,
Хай у светлых і прасторных школах
Галасы дзіцячыя звіняць.

А студэнтам пажадаю шчыра
Свой экзамен як найлепей здаць,
Калі хто не зможа на чатыры,
Дык няхай здае тады на пяць.

Без кахання калі хто застаўся,
Хай сустрэне на шляху сваім.
Ну, калі хто дужа закахаўся,
Пажадаю пажаніцца ім...

Дзед пайшоў ля ёлкі мерным крокам
І, згадаўшы юныя гады,
З беленькай Снягуркай сінявокай
Танцаваць пачаў, як малады.

А як стрэлка стала на дванаццаць,
Ля стала Дзед стаў у поўны рост.
І за поспех у жыцці і працы
Абвясціў нам Навагодні тост!

**Алесь МАРАЧКІН,**
**мастак**

— Год стары быў шчодрым на падзеі. Адна з прыемных такіх падзей гэта, бадай, тое, што я пераехаў у новую майстэрню ў Траецкім прадмесці. Суполка "Пагоня", якую я ўзначальваю, правяла выставу-прэзентацыю ў Германіі.

Маю надзею правесці ў новым годзе персанальныя выставы ў Палацы мастацтваў і ў Віцебску. І яшчэ: мы з Мікалаем Кірэевым атрымалі запрашэнне выставіць свае работы ў Францыі.

Не парываю сувязі з радзімай. Роднай Езерскай школе, што на Магілёўшчыне, прэзентаваў карціну "Дарога ў школу". Падтрымліваю старую дружбу і з радзімай Язэпа Драздовіча. Усцешаны тым, што ў Германавічах нарадзіўся новы музей мастацтва і этнаграфіі. Я, як мастак і педагог па адукацыі, жадаю настаўнікам аптымізму, здароўя, жадаю выхоўваць у сваіх падапечных пачуццё Радзімы, без якога мы загінем як нацыя. А яшчэ веры і спадзявання ў тое, што зерне, кінутае ў добрую глебу, абавязкова ўзыдзе!

**Віктар РОЎДА,**
**народны артыст Беларусі, мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор Акадэмічнага хору Нацыянальнага тэлерадыёкамітэта**

— У годзе старым, увогуле як і ў мінулыя гады, дамінантай нашых канцэртных праграм была духоўная музыка, якую з задавальненнем слухаюць не толькі ў нашай краіне, а і далёка за яе межамі. Дарэчы сказаць, у пачатку новага года ў нас мяркуецца паездка ў Германію. У свой рэпертуар мы яшчэ ўключылі духоўную музыку Балгарыі.

Увогуле ж наш хор — менавіта той асяродак, праз які праходзяць усе прэм'еры беларускай музыкі, прапаганда якой — наш святы абавязак.

Жадаю настаўнікам моцы духу, усведамлення таго, што крызісныя часы перажывае кожная краіна, і яны ўрэшце праходзяць, жыццё нармалізуецца.

У новым годзе жадаю здзяйсненняў вашых мар і спадзяванняў, вашых светлых надзей.

## УСЁ ІДЗЕ ДА ЛЕПШАГА

"Вось і праляцеў год, а мы нават і не заўважылі", — гэтую сакраментальную фразу зараз можна пачуць усюды: і на працы ад калег, і дома, сярод сваіх блізкіх. Хто ўздыхне з палёгкай, а хто і цяжка. І сапраўды, колькі сем'яў, столькі і лёсаў. І кожная сям'я пражыла гэты год па-свойму. Тым больш, што год выпаў не з лёгкіх. Не будзем сумаваць, наперадзе ўсё ж свята — Новы год.

Наступны год па ўсходняму гараскопу — год Кабана. Год абяцае быць спрыяльным для фінансістаў і інтэлігенцыі. Усё ідзе да лепшага, вяртаюцца радасці жыцця, дастатак. Прагноз, як бачыце, нядрэнны. Што ж, пажывём—пабачым.

А пакуль трошкі гісторыі. Указам Пятра Першага ад 15 снежня 1699 года народам імперыі загадана: "Поелико в Росии считают новый год па-разному, сего числа перестать дурить головы людям и считать новый год повсеместно с первого генваря, а в знак того доброго начинания и веселия поздравлять друг друга с новым годом, желая в делах благополучия, в семьях благоденствия.

В честь нового года ўчинить украшения из елей, детей забавлять, на санках катать с гор, а взрослым людям пьянства и мордобоя не учинять, на то других дней хватает".

Вось так з загада Пятра Першага і пачаў крочыць новы год, які заўсёды ўяўляўся нам барадатым Дзедам Марозам у канцы года і маленькім ружавашчокім хлапчуком — у пачатку.

Падрыхтоўка да Новага года — гэта заўсёды вельмі прыемныя клопаты для ўсіх членаў сям'і. Мужчыны набываюць ёлкі — найлепшае ўпрыгажэнне вашай кватэры. Жанчыны бегаюць па магазінах у надзеі купіць прадукты да святочнага стала, і як мага танней. Тым больш, што зараз праблемы набыць што-небудзь смачненькае няма — былі б толькі грошы.

Навагодні стол упрыгожваюць гірляндамі ці букетамі з яловых лапак, асаблівую ўрачыстасць сталу надаюць свечкі. Сервіруюць лепшым посудам і сталовымі прыборамі.

Гатуюць рыбу фаршыраваную і заліўную (лепш карпа), птушку смажаную і фаршыраваную, запечаную цалкам, розныя саленні дамашняга прыгатавання, закускі з мяса, курэй, усемагчымыя салаты.

А паколькі жывём мы з вамі ў Беларусі, то і сустракаць трэба Новы год па-беларуску — са стравамі, прыгатаванымі па рэцэптах нацыянальнай кухні. Вось некалькі з іх.

## НА СВЯТОЧНЫ СТОЛ

### САЛАТА МІНСКАЯ

50 г сушаных грыбоў, 3—4 бульбіны, 2 цыбуліны, 150 г квашанай капусты, 100 г маянэзу.

Вараныя грыбы і бульбу нарэзаць кавалачкамі, рэпчатую цыбулю дробна пакрышыць. Квашаную капусту перабраць, вялікія кавалачкі парэзаць. Падрыхтаваныя прадукты акуратна перамяшаць, запраўіць маянэзам. Аформіць салату варанымі грыбамі і зяленівам.

### РУЛЕТ З ПТУШКІ

1 курыца, 150 г вяндліны, 0,5 чайнай лыжкі кміну, соль, перац.

Для амлета: 3 яйкі, 50 мл малака, соль.

Курыцу выпатрашыць, прамыць і зняць мякаць разам са скурай. Мяса пакласці скурай уніз і адбіць. Затым нацерці соллю, пасыпаць кменам, зверху пакласці амлет з нарэзанай вяндлінай і згарнуць рулетам. Абвязаць курыцу шпагатам, пакласці ў падсолены булён і варыць 1,5 —2 гадзіны. Астудзіць у булёне, 4—5 гадзін патрымаць пад цяжарам.

Зняць шпагат, нарэзаць на порцыі. На гарнір падаць агуркі, памідоры.

## НАВАГОДНІ ЭТЫКЕТ

Першы тост — за гаспадаром дома.

Бакалы на доўгіх ножках бяруцца двума пальцамі, і ні ў якім выпадку за дно.

Адкупорваючы бутэльку з віном, гаспадар трошкі налівае сабе, затым гасцям, і ў канцы далівае ў свой бакал.

Напіткі заўсёды ставяцца справа, а стравы — злева.

## ЯК СТАЦЬ ПРЫГОЖАЙ?

Хутка дванаццаць, і часу, каб стаць прыгожай, у вас вельмі мала. Але не хвалюйцеся — зараз стомленасць як рукой зніме.

Глыбока ўздыхніце некалькі разоў, расслабцеся. Вам трэба адпачыць хвілін 15—20, і гэтага часу якраз дастаткова, каб зрабіць зменныя кампрэсы для твару. Зварыце рамонкавы, ліпавы ці мятны чай, працадзіце і яшчэ раз падагрэйце, выліце ў вялікую чашку. Побач пастаўце чашку з халоднай вадой, прыгатуйце дзве марлевыя сурвэткі.

Змачыце сурвэтку ў гарачым чаі, адажміце, пакладзіце на твар на дзве хвіліны, потым змяніце яе другой сурвэткай, змочанай халоднай вадой. Змену кампрэсаў рабіце 2—3 разы, апошні — халодны, трымайце 5 хвілін.

Можна ачысціць і асвяжыць твар адварам аўсяных камячкоў. На літр кіпню кладуць дзве сталовыя лыжкі камячкоў, даводзяць да кіпення і астуджваюць.

А зараз — душ. Таксама кантрасны: гарачы — халодны. Калі ў вас вельмі стаміліся ногі, удзяліце ім 15 хвілін: пастаўце два тазы — з гарачай і халоднай вадой — і паперамення трымайце ногі 2—3 хвіліны ў кожным.

# ЧАРАЎНІЦА

*Навагодні салон "НГ" для жанчын*

## ЗРАБІЦЕ ТАК

Калі ў вас няма новага абруса, а стары выглядае зусім несвяточна, купіце ў магазіне звычайны цюль і накрыйце ім стол. Гэта вельмі прыгожа!

***

Калі вы збіраецеся выкарыстаць лёд для напіткаў і кактэйляў, зрабіце так. У кожную ячэйку для лёду пакладзіце ягадку вішні (з кампоту ці варэння). Затым заліце вадой і пастаўце ў маразільнік. Такія кубікі выглядаюць вельмі эфектна!

***

Бакалы ці звычайныя тонкія стаканы, у якіх вы будзеце падаваць сокі, напіткі, кактэйлі, можна зрабіць вельмі эфектнымі. Змачыце іх краі вадой, а затым абмакніце ў цукар. Дайце засохнуць. Ці не праўда, вельмі падобна на іней!

***

Як упрыгожыць ёлку, каб яна выглядала вельмі прыгожа і незвычайна? Купіце 30—40 аднолькавых шарыкаў (аднаго памеру і колеру) і ўпрыгожце імі ёлку. Але незалежна ад таго, ёсць ці няма ёлкі ў вашай кватэры, пастаўце на святочны стол вазу з яловымі лапкамі.

## ЖАНОЧЫ ГАРАСКОП

Прапануем вашай увазе невялічкі жаночы гараскоп на будучы год. Чаму толькі для жанчын? Менавіта таму, што жанчына з'яўляецца захавальніцай дамашняга ачага, і таму, што ад яе добрага настрою і ўладкаванага сямейнага жыцця залежыць настрой блізкіх людзей.

Справа, пачатая Казярогамі ў адыходзячым годзе, ужо ў студзені будучага года прынясе першыя плады. Асабліва пашанцуе бізнесменшам. Да лепшага зменіцца сямейнае жыццё жанчыны-Казярога. Па-новаму зірнуць на іх мужчыны, ацэняць іх гаспадарлівасць і... заваляць падарункамі.

У жанчыны-Вадалея, магчыма, з'явіцца фундатар, які дапаможа вырашыць фінансавую праблему. А тых, хто яшчэ не звязаны вузамі Гіменея, чакае рамантычнае здарэнне, за якім паследуе вяселле.

Аднойчы Рыбы адчуюць сябе акрыленымі. Літаральна ўсё будзе ўдавацца ім без асаблівых намаганняў. Некалькі абновак паспрыяюць гэтаму.

Жанчыне-Оўну прыйдзецца доўга даказваць мужу, хто ў хаце гаспадар. І тым не менш яе прапансва аб тым, як распарадзіцца чэкамі "Маёмасць", пройдзе на сямейнай радзе. І ў выніку ў доме з'явяцца "лішнія" грошы на каштоўную і карысную пакупку. Мужу застанецца толькі прызнацца вам у каханні.

Фартуна — на баку Цяльцоў, якія любяць займацца на гародзе ці ў садку. У іх ёсць магчымасць стаць фермершамі. А калі вы надумалі купіць карову, абавязкова зрабіце гэта. Яна будзе даваць столькі малака, колькі даюць рэкардсменкі з альпійскіх лугоў.

У сярэдзіне мая жанчыны-Блізняты адчуюць, што наступае іх час. Аднойчы ўначы яны прачнуцца ад нечаканага прыліву сіл і вялікага жадання працаваць, закасаўшы рукавы. І гэта вам прынясе поспех.

Ракі могуць смела гуляць у латарэю. Галоўнае — рызыкнуць, і вас чакае пяцізорачны гатэль у бархатны сезон каля цёплага мора. Не адкладваючы, неабходна заняцца вывучэннем замежнай мовы.

Вельмі прыемная навіна чакае ў першы дзень новага года расчараваную ў жыцці жанчыну-Ільвіцу. Ухапіўшыся за саломінку, ужо праз некалькі месяцаў яна атрымае магчымасць камандаваць і на працы, і дома.

У дзяўчынак, якія нарадзіліся пад знакам Дзевы, з'явяцца творчыя здольнасці. Дзяўчаты на выданні знойдуць свой шчаслівы лёс. Маладыя жанчыны народзяць цудоўных і здаровенькіх дзяцей. Славалюбівыя Дзевы будуць пераскокваць праз прыступкі па службовай лесвіцы. Да жанчын сярэдніх гадоў прыйдзе другая маладосць.

Шалі. Кожная жанчына, якая нарадзілася пад гэтым знакам, зразумее, чаго яна жадае. Перыяд ваганняў з наступленнем новага года скончыцца. Жанчына-Шалі, на першы погляд такая нерашучая, праявіць цвёрдасць у барацьбе за будучыню дзяцей. І даб'ецца поспеху.

Новы год — цудоўны перыяд у жыцці Скарпіёнаў. Пачуцці і сувязі народзяцца ў навагоднюю ноч і будуць развівацца на працягу трох месяцаў. Яны прывядуць да стварэння гарманічнай сям'і і да бліскучай кар'еры. Мары абавязкова збудуцца. Недахопу не будзе ні ў чым — ні ў каханні, ні ў грошах.

Жанчына-Стралец пачне займацца самаадукацыяй. Не пройдзе і паўгода, як вы зможаце прадэманстраваць глыбокія веды ў той ці іншай галіне навукі. А адна з вас дасягне неверагоднага — вынайдзе к канцу XX стагоддзя эліксір жыцця.

## ВАРАЖБА НА ШАМПАНСКІМ

У ваш бакал кіньце мікраскапічны кавалачак шакаладу і па яго паводзінах мяркуйце пра ваш лёс у будучым годзе. Кавалачак можа кувыркацца і амаль падскокваць, значыць у Новым годзе вас чакаюць бурныя сустрэчы, вам прыйдзецца шмат круціцца і спяшацца. Ці ён ляжа пад шампанскае на дно бакала, тады і вам, магчыма, суджана затаіцца ў чаканні шчасця. Аднак лепш за ўсё, калі ён будзе спакойна плаваць па паверхні — значыць у будучым годзе вас чакае шчасце і ўдача.

## УСМЕШКА — ЭЛІКСІР МАЛАДОСЦІ

— Чаму Пятроў учора так крычаў на сваю жонку?
— Яна не хацела казаць, куды патраціла грошы.
— Чаму ж ён сёння крычыць у два разы гучней?
— Сёння яна яму, нарэшце, адказала...

***

Гаворыць цешча зяцю:

— Кожны вечар я чую, як вы расказваеце майму ўнуку перад сном казкі. Растлумачце, калі ласка, чаму ўсе вашы гісторыі заканчваюцца словамі: "Яны пажаніліся і сталі жыць шчасліва, таму што жонка была сірата?"

***

— Калі адбыліся першыя выбары па-савецку?
— Калі Бог паказаў Адаму Еву і сказаў: "Выбірай сабе жонку".

***

— Тата, як пазнаць, хто ў вераб'ёў ён, а хто — яна?
— А ты паслухай: хто апошнім замаўчыць, той і вераб'іха.

І напрыканцы нашай размовы хацелася б пажадаць (незалежна ад таго, што вы паставіце на свой святочны стол: заморскія стравы ці звычайныя нашы, беларускія, будзеце сустракаць Новы год у Парыжы ці ў сваёй кватэры, адны ці ў шумнай і вясёлай кампаніі сяброў), каб у вашым сэрцы заўсёды жылі тры дабрадзеі — Надзея, Вера і Любоў.

З Новым годам!!!

Таццяна МНІШКО.

## НАВАГОДНІ ВАЛЬС

Словы і музыка настаўніка Яўгена Карпуця

Снягурка рукой нам махала,
А з ёю Дзядуля Мароз,
Вясёлыя песні спявала,
Смяялася шчыра, да слёз.

Прыпеў:
Кружыцца, кружыцца, кружыцца
Сняжынкавы карагод.
Людзям хай верыцца, дружыцца
У гэты Новы год!

Мы з радасцю новай, бязмернай
Гатовы штогод іх чакаць,
Каб светлай надзеяй і верай
Нашы дні благаслаўляць.

Прыпеў:
Ну, дзе ж вы, зайцы і лісіцы? —
Ужо не чуваць галасоў.
Хай кожнаму казка прысніцца —
Ялінка з дрымучых лясоў.

Прыпеў:
Ляглі на сняжок сіняваты
Халодныя цені зімы.
Заззяў каляндар новай датай,
Са святам сустрэліся мы.

Прыпеў:
Кружыцца, кружыцца, кружыцца
Сняжынкавы карагод.
Людзям хай верыцца, дружыцца
У гэты Новы год!

## МАЗАІКА

### ЦУД ЗА СЕМ ДЗЁН

Пол Дэніелс мае ўсе падставы шчасліва ўсміхацца. Ён распрацаваў метад, па якім замежную мову можна вывучыць усяго за сем дзён. Сакрэт — у асобнай тэхніцы запамінання, заснаванай на зрокавых асацыяцыях, прычым выключаецца ўсялякая зуброжка.

Спярша засвойваецца вялікая колькасць асобных слоў, толькі затым — фразы. Гэта той жа шлях, сцвярджае аўтар, якім праходзіць кожнае дзіця, вывучаючы родную мову.

Газета "Таймс" надрукавала рэкламу 12 касет, выпушчаных Дэніелсам. З іх дапамогай любы жадаючы зможа авалодаць французскай, іспанскай, нямецкай альбо італьянскай мовай. Слухаць іх можна ў любы вольны час як дома, так і па дарозе на работу.

### НАМ БЫ ІХ ТУРБОТЫ

Цэнтр развіцця адпачынку ў Токіо апублікаваў вынікі апытання 3300 мужчын і жанчын, якія жывуць у розных раёнах краіны. 57 працэнтаў апытаных прызналіся, што не могуць пражыць і тыдня без тэлевізара і радыё. Каля 40 працэнтаў не ўяўляюць, як можна правесці адпачынак працягласцю ў месяц. З кожных 10 чалавек сем адказалі, што яны гатовы ахвяраваць сваім адпачынкам для кампаніі, калі іх папросяць папрацаваць там у час адпачынку.

### НЕ ЎСЁ ЯШЧЭ СТРАЧАНА

Французскі часопіс "Экспрэс" надрукаваў дасье "Гэта было ўчора", з якога бачна, што 30 гадоў назад толькі трэцяя частка кватэр мела ванныя, а ўстаноўкі тэлефона трэба было чакаць паўтара года, і тэлефоны былі толькі ў 9 працэнтаў жыхароў.

Тэлевізары тады мелі толькі 23 працэнты насельніцтва, а каляровыя — 13, зараз — 84. Менш трэці жыхароў мелі пральныя машыны, крыху больш трэці — лядоўні. Цяпер халадзільнікі практычна ва ўсіх. Як бачым, прагрэс відавочны.

Дык мо і мы праз трыццаць год дачакаемся ўзроўню жыцця французаў?

### ПЧАЛА АД ФАРАОНА

Аказваецца, першы медаль за храбрасць з'явіўся тры з паловай тысячагоддзі таму ў Старажытным Егіпце. Ён вырабляўся з золата ў форме пчалы. "Залатой пчалой" фараоны ўзнагароджвалі воінаў, якія вызначыліся ў баі.

## БЫВАЙ, ГОД САБАКІ!

Фота Юрыя БОНДАРАВА.

## ВЯСЁЛЫ ПЕГАС

### НАХЛЕБНІКІ

На экскурсію ў пякарню
Мы пайшлі ўсім класам.
Нас гасцінна частавалі
Булачкамі, квасам.

Бачылі, як хлеб пячэцца
На гарачым подзе.
Пекары нам расказалі
Аб сваёй рабоце.

Запыталі дома ў Мішы: —
Што ў пякарні бачыў?
— Як нахлебнікі
працуюць, —
Бойка ён зазначыў.

## ШТО ПРАПАНУЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ

### ПАНЯДЗЕЛАК, 2 СТУДЗЕНЯ

**БЕЛАРУСКАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ**

7.55 Праграма перадач. 8.00 "Я помню дзіўнае імгненне..." Фільм-канцэрт. 8.50 Эканамікст. 9.00 У час канікулаў. "Разумныя рэчы". Мастацкі фільм. 11.10 "Востраў капітанаў". Мультфільмы 1-ы і 2-гі. 11.40 "Мінулае яшчэ наперадзе", "Спадарожнікі". Тэлевізійныя дакументальныя фільмы. 12.40 Планета людзей. Міжнародная праграма. 13.10 "Палёт птушкі". Мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі. 15.20 "Небыліца". Фільм-канцэрт. 16.00 Праграма перадач. 16.05 Залаты фонд. "Лянівая прыгажуня". Тэлевізійны спектакль. 16.35 Да 50-годдзя Перамогі. 17.05 Уладзімір Алоўнікаў. Прэм'ера араторыі "Партызанскія песні". 18.00 Навіны. 18.10 На добры лад. 18.20 "Страчаная Галактыка". Мультфільм. 18.25 Навіны Бі-бі-сі. 19.00 Праспект. 19.30 Урокі Наталлі Наважылавай. 20.00 Студыя "Край". Усевалад Ігнатоўскі —гісторык і грамадзянін. 20.35 Калыханка. 21.00 Панарама. 21.40 Вертыкаль. Пошта Прэзідэнта. 22.10 Спартыўны тэлекур'ер. 22.30 Прэм'ера дакументальнага фільма Беларускага тэлебачання "Варыяцыі". 22.45 "Белы матылёк", "Ліса". Мультфільмы для дарослых. 23.05 Навіны. 23.25 Пад купалам Сусвету. 23.35 "Паласа Сімарона". Мастацкі фільм. Заключны фільм "Навічкі".

**КАНАЛ "АСТАНКІНА"**

7.30 "Блакітная страла". Мультфільм. 7.50 Наша заўтра. Баль юных талентаў. 8.45 Брэйн рынг. Юнацкі турнір. 9.25 З Новым годам, дзядзечкі і цётачкі! 10.05 Што азначаюць вашы імёны. 11.20 Акно ў Еўропу. 11.55 Рызыкнуць і перамагчы. 13.00 Сусветная геаграфія. "Зебры: сляды на траве". 13.50, 23.30, 24.00 Навіны. 14.00 "Маё імя клоун". Мастацкі фільм (Індыя). 2-я серыя. 15.40 Музычныя прэм'еры 94-га. 16.35 Да і пасля... 17.25, 20.30 Надвор'е. 17.35 КВЗ-94. Фінал. 19.40 Добрай ночы, малышы! 20.00 Час. 20.40 Сустрэча з А.І.Салжаніцыным. 21.00 "Татулька і мэм". Мастацкі фільм. 22.20 Кабарэ "Усе зоркі". 23.00 Ралі Парыж — Гранада — Дакар. 23.30 Магік-шоу. 0.10 Фестываль біг-бэндаў памяці Глена Мілера.

**КАНАЛ "РАСІЯ"**

7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Весткі. 7.20 Зоркі гавораць. 7.30 Наш сад. 8.00 Пілігрым. 8.45 "Пячора "Залатой ружы". Мастацкі фільм (Італія). 6-я серыя. 9.35 "Залаты ключык". Адкрыццё фестывалю дзіцячай песні. 10.05 "Шчукінцы, цудоўны ваш саюз!" 10.50 Музыка ўсіх пакаленняў. 11.20 Кінафестываль "Дзень Перамогі". 12.25 Мульці-пульці. "Міс Новы год". 12.40 Сялянскае пытанне. 13.20 "Не высечы..." 13.35 Лепшыя гульні НБА. 14.35 Белая варона. 15.20 "Сіняя птушка". Мультфільм. 16.10 Шарман-шоу. 17.25 Вуснамі дзіцяці. 18.10 Сам сабе рэжысёр. 19.25 Навагодняя дыскатэка "У Ксюшы". 20.25 "Падаў леташні снег". Мультфільм для дарослых. 20.45 "Дурніца". Мастацкі фільм. 1-я серыя. 22.30 Рака часу. 22.40 Аўтаімгненне. 22.45 "Дурніца". Мастацкі фільм. 2-я серыя. 23.55 На канцэрце групы "Дып Пепл" (Англія).

### АЎТОРАК, 3 СТУДЗЕНЯ

**БЕЛАРУСКАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ**

7.55 Праграма перадач. 8.00 "Настане свая чарга". Тэлевізійны фільм. 9.00 Вертыкаль. Пошта Прэзідэнта. 9.30 "Паласа Сімарона". Мастацкі фільм. 10.45 У час канікулаў. "Прыгоды капітана Урунгеля". Мультфільм. 1—3-я серыі. 11.15 Фільмы рэжысёра Л.Нячаева. "Пра Чырвоную Шапачку". Мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі. 13.30 "Фантазія для джэнтльмена". 14.05 У нас дома. Праграма для сям'і. 14.45 Ія Савіна і Алег Яфрэмаў у шырокаэкранным мастацкім фільме "Не пакідай, замілаванне..." 16.10 Праграма перадач. 16.15 Чароўны экран. "Пластылінавая варона", "Снегураты". Мультфільмы. 16.35 Залаты фонд. "Дзеда Мароза выклікалі?.." Тэлевізійны спектакль. 17.15 Вывучаем сваю гісторыю. "Вяртанне Міхася Забэйды-Суміцкага". Дакументальны фільм студыі "Летапіс". 18.00 Навіны. 18.10 "Расказ аб агатах". Кінанарыс. 18.25 Навіны Бі-бі-сі. 19.00 Бізнес-рынг. Банкі і фінансавыя кампаніі: канкурэнцыя ці супрацоўніцтва. 19.30 "Метамарфозы Ундзіны". Музычны відэафільм. 19.55 "Маё каханне, мой смутак". Тэлесерыял. 20.25 "Страшыдла". Мультфільм для дарослых. 20.35 Калыханка. 21.00 Панарама. 21.40 Студыя "Палітыка". Форум. 21.55 "Пракажоная". Тэлевізійны мастацкі фільм (Францыя). 1-я серыя. 22.50 Эканамікст. 23.05 Навіны. 23.25 Пад купалам Сусвету.

**КАНАЛ "АСТАНКІНА"**

7.30 "Паэзія танца". 50 гадоў школе-студыі Ігара Маісеева. 8.05 "Падаў леташні снег". Мультфільм. 8.25 Хрустальны чаравічак. 9.25 Брэйн рынг. Юнацкі турнір. 10.05 "Краса і гордасць Расіі". Фільм 1-ы. 10.40 Зорная гадзіна. 11.25 "Не вячэрняя". Спявае В.Панамарова. 12.15 Сусветная геаграфія. "Краіна тыграў". 13.10, 22.55, 23.50 Навіны. 13.20 "Маё імя клоун". Мастацкі фільм. 3-я серыя. 14.40 "Ноч напярэдадні Ражаства".Мультфільм. 15.40 Шырэй круг! 17.10, 20.30 Надвор'е. 17.20 У гэтыя дні праз 50 гадоў. 17.45 "Цуд ваўкоў". Мастацкі фільм (Францыя — Італія). 19.40 Добрай ночы, малышы! 20.00 Час. 20.40 Ралі Парыж — Гранада — Дакар. 21.05 Рэтраспектыва фільмаў Д.Рызі "Страчаная душа" (Італія). 23.10 Пад знакам Задыяка. Шалі.

**КАНАЛ "РАСІЯ"**

7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Весткі. 7.20 Зоркі гавораць. 7.30 Сусветная вёска. 8.00 "Наезнік-прывід". Мастацкі фільм. 4-я серыя. 8.30 "Снежная каралева". Мультфільм. 9.35 "Пячора "Залатой ружы". Мастацкі фільм. 7-я серыя. 10.30 Аты-баты... 11.00 "Литературная газета" і яе сябры-паэты. 12.30 Рэтра-шлягер. 13.20 "Эдэра". Мастацкі фільм. 14.10 Калядныя сустрэчы ў паўночнай Пальміры. 14.55 "У яранзе гарыць агонь", "Паўночная казка". Мультфільмы. 15.25 Даміно Міхаіла Баярскага. 15.55 Свята кожны дзень. 16.05 "Нявеста з Парыжа". Мастацкі фільм. 17.30 L-клуб. 18.15 "Залаты Астап-94". Міжнародны фестываль сатыры і гумару. 20.20 "Высокая мода" ў Маскве. 21.40 Мультфільмы для дарослых. 22.30 Рака часу. 22.40 Аўтаімгненне. 22.45 "Нумар "люкс" для генерала з дзяўчынкай". Мастацкі фільм.

Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА.

### СЕРАДА, 4 СТУДЗЕНЯ

**БЕЛАРУСКАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ**

7.55 Праграма перадач. 8.00 "Маё каханне, мой смутак". Тэлесерыял. 8.30 "Рынак туманны". Фільм-канцэрт. 9.15 Эканамікст. 9.25 "Пракажоная". Тэлевізійны чатырохсерыйны мастацкі фільм (Францыя). 1-я серыя. 10.20 Урокі Наталлі Наважылавай. 10.50 У час канікулаў. "Прыгоды капітана Урунгеля". Мультфільм. 4—7-я серыі. 11.30 Фільмы рэжысёра Л.Нячаева. "Прыгоды Бураціна". Тэлевізійны мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі. 13.40 Свет і чалавек. Філасофскія дыялогі. 14.10 Відзьма-нявідзьма. 15.10 "Авадзень". Мастацкі фільм. 1-я серыя. 16.15 Праграма перадач. 16.20 Паэт, мора і натхненне". Фільм-канцэрт. 17.00 "Чыпаліна, Таніна, Джаніна і іншыя". Тэлевізійны спектакль. 17.30 "Помста ката Леапольда". Мультфільм. 17.40 Вывучаем сваю гісторыю. "Дзядзька Уласаў". Дакументальны фільм студыі "Летапіс". 18.00 Навіны. 18.10 Канцэрт. 18.25 Навіны Бі-бі-сі. 19.00 "Мой лёс пралёг праз вашыя дарогі..." Творчы вечар паэтэсы Вольгі Іпатавай. 20.05 "Маё каханне, мой смутак". Тэлесерыял. 20.35 Калыханка. 21.00 Панарама. 21.40 "У стылі джаз-рэтра". Фільм-канцэрт. 22.00 "Пракажоная". Мастацкі фільм. 2-я серыя. 22.55 "Пудзіла". Мультфільм для дарослых. 23.05 Навіны. 23.25 Пад купалам Сусвету.

**КАНАЛ "АСТАНКІНА"**

5.30 Раніца. 7.50 Брэйн рынг. Юнацкі турнір. 8.25 "Дзікая Роза". Тэлесерыял. 8.50, 9.50, 14.50, 15.50, 17.50, 22.50 Навіны. 9.00 Клуб падарожнікаў. 14.00 Вытворчасць: буйны план. 14.10 Грошы і шчасце. 14.20 Хроніка дзелавога жыцця. 14.30 Агенцтва "Шанц". 14.40 Дазвольце прадставіцца. 15.00 Паглядзі, паслухай. 15.20 "Лятаючы дом". Мультсерыял. 16.00 Цін-тонік. 16.20 "Элен і хлопцы". Маладзёжны серыял. 16.50 Свет сёння. 17.00 "Мір". 17.40, 20.30 Надвор'е. 17.45 "Хто ёсць хто. XX стагоддзе". Маці Тэрэза. 18.00 Гадзіна пік. 18.30 "Дзікая Роза". Тэлесерыял. 18.55 Кіназорка. М.Баярскі. 19.40 Добрай ночы, малышы! 20.00 Час. 20.40 Маналог. 20.50 Ралі Парыж — Гранада — Дакар. 21.10 "Раман імператара". Мастацкі серыял. 1-я і 2-я серыі. 23.20 Танцы, танцы, танцы... 23.50 Прэс-экспрэс.

**КАНАЛ "РАСІЯ"**

7.20 Зоркі гавораць. 7.30 Між іншым. 8.00 Сусветныя навіны Эй-бі-сі. 8.25 Ключавы момант. 8.35 "Апошні падарунак". Мультфільм. "Шчаня з сузор'я Гончых сабак". Мастацкі фільм. 9.50 З гісторыі рускага раманса. 10.20 Гандлёвы дом. 10.35 Тэлегазета. 10.40 Сялянскае пытанне. 11.05, 13.20 Дзелавая Расія. 13.45 "Усміхніся". Джаз-панарама. 15.05 Там-там навіны. 15.20 Свята кожны дзень. 15.30 Студыя "Рост". "Вясёлыя старты". 16.05 Далёкі Усход. 16.45 Бясшумныя лідэры. 17.15 Ніхто не забыты. 17.20 Зімні карагод. 17.40 Кар'ера. 18.10 Ваша права. 18.25 Свая гульня. 19.25 Падрабязнасці. 19.35 Кінафестываль "Дзень Перамогі". "Балада пра салдата". Мастацкі фільм. 21.15 Кліп-антракт. А.Вескі. 21.25 "Бэт Дэвіс. Актрыса і зорка". Праграма В.Вульфа. 22.30 Рака часу. 22.40 Аўтаімгненне. 22.45 Экран крымінальных паведамленняў. 22.55 Тэатр песні Аляксандра Асокіна.

Галоўны рэдактар Алег КУЛІЦКІ.

ЗАСНАВАЛЬНІК — МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Выдавецтва "Полымя" (220004, Мінск, праспект Машэрава, 11).

НАШ АДРАС:
220034, МІНСК, ВУЛІЦА ЗАХАРАВА, 42.
Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 36-91-42; першага намесніка галоўнага рэдактара — 36-53-22; намесніка рэдактара-адказнага сакратара — 36-40-63; аддзелаў: праблем выхавання — 36-43-62, 36-43-71; школ — 36-90-63; органаў кіравання — 36-43-71; сацыяльных праблем; ВНУ і тэхнікумаў — 36-41-55; прафтэхадукацыі; пісьмаў і навін; культуры — 36-44-25

Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па-бацьку, зваротны адрас, нясуць адказнасць за дакладнасць фактаў і іншай інфармацыі.

Пісьмы, рукапісы, фотаздымкі і малюнкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Аб'явы могуць друкавацца не толькі на дзяржаўнай, але і на замежных мовах.

Меркаванне аўтараў публікацый не абавязкова адлюстроўвае пункт гледжання рэдакцыі.

Адказны дзяжурны Георгій КЛЯБАНАЎ.

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку."
220041, Мінск, праспект Ф. Скарыны,79.
Аб'ём — два друкаваныя аркушы. Спосаб друку — афсетны.Фармат А2. Індэкс 63867.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 Замова №104
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 19 11 12
Падпісана да друку 30.12.94 г. у 18.10.
Наклад 52.160 паасобнікаў.